


# Наша Слова

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 28 (292)

11 ліпеня 1996 г.

Кошт — 1000 рублёў






Згадкі
ЖЫЦЦЯПІС СТАНІСЛАВА БУЛАК-БАЛАХОВІЧА
Стар. 4

КІНА-ВІДЭА-АЎДЫЁ-ШОЎ-НАВІНЫ
Стар. 7





○ **НАРОД БЕЛАРУСКІ АДСВЯТКАВАЎ КУПАЛЛЕ.** Верыцца, што рана ці позна мы ўсе разам адшукаем чароўную купальскую кветку. Галоўнае — трэба ў гэта верыць.

○ ***НАМЕСНІК МІНІСТРА АДУКАЦЫІ І НАВУКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЛАДЗІМІР ВАЛАДЗЬКО ПРАЗ ДРУК ПАВЕДАМІЎ АБ СІТУАЦЫІ,*** *якая склалася сёлета з выданнем падручнікаў. Так, дзяржзаказ на 1996/1997 навучальны год складае 226 назваў падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў агульным тыражом 19 796 470 экземпляраў, а з улікам дадруку падручнікаў, неабходных для 1-ых класаў, — 20 314 470 экземпляраў. Па стану на 1 ліпеня 1996 года выдадзена 130 назваў тыражом больш за дзесяць з паловай мільёнаў экземпляраў, альбо 58 працэнтаў ад неабходнага. А 1 верасня ўжо не за гарой!*

○ **УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** пачалася рэарганізацыя рэдакцыі «Народнай газеты» шляхам пераўтварэння яе ў закрытае акцыянернае таварыства «Народная газета».

○ ***АДБЫЎСЯ З'ЕЗД*** *Беларускай сацыялдэмакратычнай Грамады і Партыі народнай згоды, якія аб'ядналіся ў адзіную арганізацыю. Яна атрымала назву Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная Грамада». Асноўны накірунак ранейшы, грамадоўскі.*

○ **У «ЗВЯЗДЗЕ» МОЖНА БЫЛО ПРАЧЫТАЦЬ ГУТАРКУ З БЫЛЫМ СТАРШЫНЁМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА МЕЧЫСЛАВАМ ГРЫБАМ,** дзе, у прыватнасці, ён сказаў: «Наперадзе нас павінна чакаць добрая, разумная будучыня, дэмакратыя, прававаяя дзяржава. У будучым я бачу толькі нармальную, працаздольную, заможную рэспубліку. Беларусы гэтага заслугоўваюць». Дай то Божа.

○ ***ВЫЙШАЎ У СВЕТ НОВЫ ЧАСОПІС ПА ПРАБЛЕМАХ МІЖНАРОДНАЙ ПАЛІТЫКІ*** *— «Вектар». Яго выдавец — Міжнародны інстытут палітычных даследаванняў.*

○ **У АДПАВЕДНАСЦІ З РАШЭННЕМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ** тэрмін налічэння чэкаў прадоўжаны да 1 студзеня 1997 года, а канчатковы тэрмін іх выдачы — да 1 чэрвеня таго ж года. Але па-ранейшаму незразумела — што ўладальнікам з імі рабіць.

○ ***ПАВОДЛЕ ДАДЗЕНЫХ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ЦЭНТРА ДЗІЦЯЧА-ЮНАЦКАГА ТУРЫЗМУ І ЭКСКУРСІЙ,*** *сёння на Беларусі налічваецца 983 школьныя музеі. 47 з іх называюцца народнымі. Кожны трэці музей прысвечаны подзвігам воінаў, партызан і падпольшчыкаў у гады вайны.*

○ **У ДРУКУ З'ЯВІЛІСЯ ЗВЕСТКІ,** па якіх пачынаючы з 1993 года насельніцтва Беларусі катастрафічна змяншаецца: у 1993 годзе — на 11 тысяч, у 1994 годзе — на 19 тысяч, а ў 1995 годзе — ужо на 32 тысячы. Па разліках акадэміка М.Цялоўскага, калі гэтая тэндэнцыя захаваецца, то ўжо ў 2105 годзе знікне з Зямлі апошні беларус, як у свой час зніклі скіфы. Праўда, на сённяшні дзень такая сітуацыя з насельніцтвам амаль ва ўсёй Еўропе.

○ **ПАВЫШЭННЯ ЦЭН НА АСНОЎНЫЯ ТАВАРЫ І ПАСЛУГІ,** *якія рэгулююцца дзяржавай, у трэцім квартале не чакаецца. Аб гэтым карэспандэнту БелаПАН паведамілі ў Камітэце цэн Міністэрства эканомікі.*

# І праз 55 гадоў боль не сціхае

30 чэрвеня прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту, Мартыралога Беларусі, Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў разам з Саюзам палітычных вязняў Летувы прынялі ўдзел у Жальбінах, прысвечаных 55-м угодкам зверскай расправы энкавэдзістаў над палітзняволенымі беларусамі, летувісамі і палякамі ва ўрочышчы Цагельня каля Чэрвеня (Ігумена).

У ноч з 24 на 25 чэрвеня 1941 года нямецкія самалёты пачалі бамбаваць Менск. Некалькі бомбаў трапіла і ў турму. Канвой выгнаў вязняў на вуліцу і натоўпам пагнаў людзей на ўсход па Магілёўскай шашы. Аслабелых, тых, хто не мог рухацца наперад, каты расстрэльвалі на месцы. На наступны дзень вязняў прыгналі ў Чэрвень і зачынілі ў гарадской турме. Там бальшавікі адабралі каля сямісот чалавек з самымі вялікімі тэрмінамі зняволення і, вывеўшы за горад, па-бандыцку забілі, пасля чаго, кінуўшы астатніх вязняў, уцяклі на ўсход.

Апошнія 5 гадоў у канцы чэрвеня з'язджаюцца былыя палітычныя вязні ў Чэрвень, каб аддаць даніну павагі сваім палеглым родным і сябрам. А 13 гадзіне каля мемарыяльнага крыжа ва ўрочышчы Цагельня на ўскрайку Чэрвеня пачаўся жалобны мітынг-рэквіем, які распачаў старшыня мясцовай Рады БНФ Уладзімір Дарагуш.

Першай слова ўзяла ветэран беларускага нацыянальнага руху, былы сябра Саюза Беларускай Моладзі і вязень ГУЛАГа Надзея Дзямідовіч. У 1944 годзе яе асудзілі на 25 гадоў лагераў як беларускую нацыяналістку і ворага савецкай улады. Прайшла ўсе колы лагернага пекла, брала ўдзел у паўстанні вязняў кінгірскага лагера 1954 г. у Казахстане. У яе прамове гучаў як боль па тых, хто загінуў, так і засцярога для цяперашняга пакалення, бо таталітарызм у Беларусі зноў падымае галаву. Камуністы і зараз не перастаюць рабіць спробы абяліць сваіх крывавых паплечнікаў. Чаго вартыя былі спекуляцыі вакол Курапатаў. Днямі Генеральная пракуратура Беларусі расставіла кропкі над і, пацвердзіўшы, што масавыя забойствы здзяйснялі органы НКУС.

Гэтая тэма мела працяг у выступах дэпутата Сейма Летувы Альгірдаса Эндрукайціса і сябра Сойма БНФ Міколы Купавы.

Не абышлося без нечаканых і цёплых сустрэч. Так праз сорак гадоў сустрэліся былыя вязні лагера Кінгір Надзея Дзямідовіч і Мікола Пазьняк са сваёй лагернай сяброўкай з Летувы. Слёзы, абдымкі, успаміны перапаўнялі гэтых немаладых людзей, шчырых патрыётаў сваіх краін.

Ёанна Янушчак з Гдыні ў чэрвені 41-га ~~знаходзілася~~ ў той самай калоне вязняў, якую гналі ў бок Чэрвеня. Яе арыштавалі ў 39-м за ўдзел у падпольнай польскай патрыятычнай арганізацыі, многіх яе сяброў НКУС расстраляла. Самой Ёанне пашанцавала, яна не трапіла ў Чэрвені ў лік тых 700, якія палеглі ў Цагельні. Яна распавядае, як уначы з 26 на 27 чэрвеня да іх у барак забеглі мужчыны і паведамілі, што яны свабодныя, бо канвой разбегся. Гаварыла, як прабіралася насустрач наступаючым нямецкім часткам у родную Ліду. Разам з ёй прабіраўся і беларус Яраслаў Станкевіч, які быў падрыхтаваны немцамі і закінуты за некалькі дзён у тыл савеітам. (Тут вялікі кавалак працы для нашых гісторыкаў, каб адкрыць яшчэ адно невядомае імя беларускага патрыёта. Хутчэй за ўсё ён уваходзіў у 1-ы беларускі штурмавы звяз, які быў сфармаваны з палонных беларусаў, былых жаўнераў польскай арміі. У той час многія з іх яшчэ мелі ілюзіі адносна таго, што немцы дапамогуць вызваліць Беларусь ад бальшавікоў і пабудаваць незалежную дзяржаву).

Пасля беларусы разам з летувісамі прайшлі да летувіскага памятнага крыжа-капліцы, дзе ўшанавалі памяць прадстаўнікоў гэтай нацыі, якія знайшлі там месца свайго апошняга спачынку. Таксама былі ўспаміны летувіскіх палітвязняў, чыталіся вершы і гучалі песні. На заканчэнне пан Альгірдас Эндрукайціс падзякаваў арганізатарам урачыстасці п.Міколу Купаву і п.Маі Кляшторнай за цёплы прыём і памяць пра іх суайчыннікаў, якія ляжаць у беларускай зямлі, і выказаў спадзяванне на далейшае супрацоўніцтва.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**



з дня нараджэння Яна Чачота

# Свята ў Доме літаратара

24 чэрвеня ў сталічным Доме літаратара адбылася вечарына, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Яна Чачота. На ёй была завершана гаворка пра ролю і значэнне Чачота ў беларускай культуры і літаратуры, распачатая на Карэліцкіх міжнародных чытаннях 15 чэрвеня, у якіх прынялі ўдзел беларускія і польскія даследчыкі, з Менска, Варшавы, Зялёнай Гуры, мясцовыя краязнаўцы, музейныя работнікі, настаўнікі. Вечарыне папярэднічала на радзіме юбіляра тэатралізаванае свята «Талент, народжаны песняй», на якім 23 чэрвеня быў адкрыты бюст Яна Чачота ў г.п. Карэлічы.

На вечарыне слова ўзялі А.Мальдзіс, Г.Кісялёў, літаратуразнаўца У.Мархель і паэт К.Цвірка — абодва перакладчыкі твораў Чачота. З прывітальным словам выступіў намеснік міністра культуры Ю.Цвяткоў, а таксама намеснік старшыні Карэліцкага райвыканкама А.Самец.

А.Мальдзіс, вядучы вечарыны, падсумаваў вынікі жыццёвага і творчага подзвігу Чачота: «Ён сумяшчаў у сабе ўсё: і збіральніка народнай творчасці, і паэта, і даследчыка, і выдаўца. Таму, што ён быў першым. Тых шасці тамоў «Песняў з-пад Нёмана і Дзвіны», тых вершаў, беларускіх і польскіх, тых прадмоў навуковых хапае, каб ён заняў важнае месца ў нашай гісторыі.

Відаць, ёсць заканамернасць у тым, што пры фарміраванні нацыі голас бяруць спярша фалькларысты і этнографы, а ўжо затым пісьменнікі, навукоўцы і палітыкі». Той факт, што Ян Чачот пісаў аднолькава на дзвюх мовах — польскай і беларускай, Мальдзіс тлумачыць тым, што паэт не аддзяляў сябе ні ад польскага, ні ад беларускага народаў — нацыянальная свядомасць у той час толькі фарміравалася. Таму і мы не павінны яго залічваць толькі да беларускай або толькі да польскай культуры. Трэба зразумець і тое, што ідэал Чачота — працавіты, сумленны селянін і добры гаспадарлівы пан — для таго часу быў адзіна мажлівым ідэалам. Праграма паўсядзённай асветніцкай працы пачынальніка беларускай літаратуры актуальная і сёння. Яна працуе на аб'яднанне народа вакол такіх простых ісцін, як зямля, гаспадарка, мова, культура, дзяржава. Чачот нам блізкі і сваім народалюбствам.

Г.Кісялёў спыніўся на навуковых здабытках Чачота (апісанне граматыкі беларускай мовы, выданне слоўнічка «Некаторыя крывіцкія ідыёмы...», даследаванні беларускага вершаскладання і інш.) і на яго багатай эпісталярнай спадчыне, якую па яркасці і багаццi думак можна параўнаць з Караткевічавай. Думкі Чачота-асветніка, адзначыў Кісялёў, у многім супадаюць з думкамі К.Каліноўскага, які таксама ненавідзеў прыгон, а асвету лічыў найвялікшым шчасцем для народа, звязваючы праблемы асветы з праблемамі здабыцця свабоды. Чачот, як і Каліноўскі, лічыў, што народ для ўрада, а ўрад для народа.

К.Цвірка, укладальнік першай аўтарскай кніжкі Чачота «Наваградскі замак» (1989), сваё выступленне прысвяціў яго паэзіі, а галоўнае значэнне творчасці вызначыў так: «Чачот першы, хто звярнуў увагу на мову свайго народа і пачаў пісаць вершы на яго мове».

Заключным момантам вечарыны стаў выдатны канцэрт. У выкананні Дзяржаўнага Акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча, салістаў А.Бундзелевай, Н.Галеевай, Н.Залатаровай, А.Кеда, Л.Лют, Р.Палешука, В.Скарабагатава і камернага мужчынскага хору «Унія» прагучала больш за 20 песень на словы Яна Чачота (музыка С.Манюшкі, пераклад У.Мархеля і К.Цвіркі).

**Ірына КРЭНЬ.**

# У абарону Канстытуцыі і дэмакратыі

Кіраўніцтва БНФ распаўсюдзіла заяву, у якой выказвае глыбокае абурэнне з прычыны злачыннага нападу на кватэру карэспандэнта радыё «Свабода» Юрыя Дракахруста. Кіраўнікі фронту звяртаюць увагу журналістаў і грамадскасці Беларусі ды іншых краінаў на новыя формы дзейнасці сілаў, якія супрацьстаяць дэмакратыі ў краіне.

Збіццё мірных дэманстрантаў у Менску, гаворыцца ў заяве, стрэл у машыну дэпутата В.Ганчара, здзек над жонкай вядомага публіцыста — гэта звёны аднаго ланцуга і вынік прававога нігілізму, які пануе сёння ў Беларусі. Аўтары заявы лічаць, што Вярхоўны Савет разам з Канстытуцыйным судом павінны пакласці канец гэтым крымінальным дзеянням, скіраваным супраць беларускіх грамадзянаў, і спадзяюцца на падтрымку ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі.

Управа Сойма Беларускага Народнага Фронту занепакоена лёсам паэта Славаміра Адамовіча, арыштаванага беларускім КДБ. Управа лічыць, што Адамовіч не зрабіў ніякага злачынства і церпіць пераслед за свае палітычныя перакананні. Такім чынам, аўтары заявы сцвярджаюць, што парушаны арт.33 Канстытуцыі Беларусі і арт.19 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Беларуская патрыятычная арганізацыя «Белы легіён» прыняла заяву, адрасаваную Генеральнаму пракурору, Канстытуцыйнаму суду і сродкам масавай інфармацыі Беларусі.

У ёй, у прыватнасці, адзначаецца, што ў дзяржаўных СМІ мусіруюцца чуткі, што арганізацыя «Белы легіён» створана пры непасрэдным удзеле Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі. Арганізацыя лічыць падобныя заявы абразай свайго гонару і годнасці і сплануванай спробай дыскрэдытацыі «Белага легіёна» ў вачах грамадскасці. Штаб арганізацыі заяўляе, што «Белы легіён» з'яўляецца арганізацыяй, якая выступае за пабудову адкрытага грамадства і ніколі не супрацоўнічае са структурамі, дзейнасць якіх супярэчыць прынцыпам дэмакратыі.

**Падрыхтаваў А.Н.**

*З рэдакцыйнай пошты*

# Як жа родную не любіць?

Прызнацца, роднай мовай я валодаю недасканала, але ж гэта не перашкода, каб любіць яе моцна, каб цешыцца прыгожым складам, цудам роднага слова, чутага некалі ад бабулі і дзядулі. З дзяцінства я памятаю, як перавучвалі беларусаў на расійскі лад. Планамерна вынішчалася беларускае слова, беларуская мова — адна з найважнейшых састаўных частак нашай культуры.

Дарэчы, пра культуру беларускай вёскі ў савецкі час. Мой дзед распавядаў мне, што ў іх у вёсцы быў адзіны п'яніца і гультай па прозвішчу Галайда. У час калектывізацыі, калі бальшавіцкія камісары з'явіліся ўсё «обобществлять» і Галайду паставілі старшынём калгаса, тады вёска ці не ўпершыню пачула сапраўдныя расійскія мацюкі. Так нараджалася новая, савецкая культура — з п'янствам, разбэшчанасцю, гультайствам ды паўсюднай русіфікацыяй.

Я таксама мусіла вучыцца на расійскай мове ў школе, тэхнікуме і ВНУ, і ніхто ў маёй маці не спытаў, на якой мове вучыцца яе дачцэ. Больш за 37 гадоў я працавала эканамістам, і ўся мая праца была арганізавана на расійскай мове.

Я паверыла ў адраджэнне беларускасці, калі Старшынём Вярхоўнага Савета Беларусі працаваў С.С.Шушкевіч. Пасля яго старшынства настаці для адраджэння чорныя дні, бо кан'юнктуршчыкаў, манкуртаў ды адкрытых ворагаў беларускасці дзікім збегам акалічнасцей лёс (а можа д'ябал) узнёс на пік улады.

З «Нашым словам» я знаёмая больш за два гады. Падабаецца мне рубрыка па гісторыі Беларусі, «Веруем», «Кола сям'і», публікацыі, прысвечаныя роднаму слову. Добры раздзел «Маладая Беларусь». Даць бы тут яшчэ слова кіраўнікам народных гуртоў, асабліва беларускамоўным, патрыётам Беларусі. І няхай бы нейкі старшыня калгаса сказаў сваё слова пра тое, што не можа рабіць ламяніца, калі не чуе спрадвечных, мілых яе слыху слоў, не прымае яна «рош», бо ёсць адвечнае наша «жыта».

Мару пра тое, каб літаратурную перадачу на першай праграме беларускага радыё ствараці сябры ТБМ. Тады праз свае творы загамоняць з народам Беларусі яе слынныя сыны і дочкі, якіх вынішчылі ці расстралялі ў ГУЛАГах. Сусветная класіка будзе гучаць на роднай мове, а замест «Узнятай цаліны» будзе гучаць беларуская класіка. Ці ўзяць музычныя перадачы першай праграмы радыё. Калі гучыць: «Молодые мои старики, мы еще повоюем», — я пытаюся: з кім будуць ваяваць «молодые мои старики»? Пэўна, з Чачнёй?! Альбо другі пяюн сцвярджае, што яму «поют перепела... где отгорел калины куст». Сказаць бы ім, што ў той час толькі крумкачы крумкаюць, але ж не пачуюць... А нам не пачуць Забэйду-Суміцкага.

А з «Нашым словам» я ўжо не расстануся.

**Л.СУДЗІЛОЎСКАЯ.**
г.Гомель.

# Будзь жа сябрам!

У дзяцінстве быў у мяне прыяцель. Назавём яго А. Ён, як і ягоны бацька, які ненавідзеў усё роднае, стараўся ўжываць расійскія словы. Нехкабраліся мы, ужо немаладыя аднагодкі, ды і па кілішку арганізавалі. Тут А. і паказаўся:

— Скажы мне, Алесь, да как эта па-беларуску будзет турыст?

— Турыст — слова інтэрнацыянальнае, — тлумачу, — паходзіць яно з французскай мовы. Але сёння яно і нямецкае, і расійскае, і польскае, і ўкраінскае.

— Нет, ты мне скажы, как будзет па-беларуску турыст? — не супакойваўся А.

— Цябе, браце, за здраду роднаму слову, відаць, Бог пакараў. Ты ж маеш сярэднюю адукацыю і абавязаны разумець, што кпіць з мовы сваіх дзядоў і бацькоў, як і з маці, грэх.

Пасля гэтага А. пры сустрэчах не закранаў тэмы роднай мовы. А вось цяпер, калі для беларушчыны зноў настаці чорныя дні, мужык акрыяў. Аднойчы перад начальствам (мабыць, хацеў выслужыцца) А. звярнуўся да мяне:

— Ты мне скажы, што гэта за слова прыдумалі вы — «сябра»? Сябра фронту, сябра ТБМ, сябра партыі?

— То ты лічыш, што «сябра» дрэнна, а «член» добра? — здзівіўся я. — Давай зробім так: ты мяне будзеш называць сябрам, а я цябе — членам. Пабачым, што лепш.

Пасля гэтага я заўсёды называў яго членам. Бывае, узнікне спрэчка паміж мужыкамі, а я і кажу:

— Няхай член вырашыць, на чым баку праўда.

Мужыкі спачатку дзівіліся, чаму я яго членам называю. Тады я расказаў ім пра нашу дамоўленасць. Памаленьку і іншыя пачалі чалавека членам называць. Нарэшце А. не вытрымаў і папрасіўся:

— Алесь, не называй мяне членам. Я сам бачу, што тады памыліўся.

— Я то не буду цябе так называць, — кажу, — але людзі ўжо зразумелі, хто ты.

**Алесь БЕЛАКОЗ.**
Мастоўскі р-н.

# Даты і падзеі ў ліпені

**13** — 130 гадоў з дня нараджэння Напалеона Чарноцкага, лекара, публіцыста, перакладчыка.

**14** — 180 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Геранііма Марцінкевіча.
— 105 гадоў з дня нараджэння Пятра Бузука, мовазнаўца і пісьменніка.
— 85 гадоў з дня нараджэння паэта Паўла Пруднікава.

**15** — 120 гадоў з дня нараджэння паэтэсы Цёткі (Алаізы Пашкевіч), адной з заснавальніц Беларускай сацыялістычнай грамады.
— 75 гадоў з дня нараджэння этнографа Лідзіі Малчанавай.

**16** — 80 гадоў таму закончылася беспаспяховая наступальная аперацыя расійскіх войск каля Баранавіч.

**17** — 95 гадоў з дня нараджэння Бруна Ясенскага, польскага пісьменніка, перакладчыка твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Пятруся Броўкі.

**18** — 180 гадоў з дня нараджэння Уільяма Мейкпіса Тэкерэя, англійскага пісьменніка.
— 100 гадоў з дня нараджэння Антона Валынчыка, кампазітара і дырыжора, выкладчыка Клецкай і Навагарадскай беларускіх гімназій, загадчыка кафедры музыкі і спеваў Гарадзенскага педінстытута.

**Падрыхтаваў З.С.**

*Але! Але!*

# Маладзечанскі фестываль: і тут не абышлося без амонаўцаў

Здаецца, ці не самым сучасным беларускім сімвалам становіцца дубінка. «Амонаўская». АМАП ці амонаўцы ў нас амаль ніхто не піша і не прамаўляе, так што назва гэта расійска-інтэрнацыянальная, выходзіць. Важны ўклад вялікага брата ў агульную лексічную скарбонку, так бы мовіць. Амонаўцаў у нас цяпер — хмары, калі на нейкае мерапрыемства з'яўляюцца першыя асобы дзяржавы, хаця, як на мой погляд, столькі аховы наўрад ці трэба, каб надзейна абараніць свайго «патрона» ад тэарэтычных замахаў зламыснікаў.

І зусім ужо выклікае недаўменне з'яўленне цэлых атрадаў «спецназаўцаў» на канцэртных пляцоўках, як было, прыкладам, нядаўна ў Маладзечне на Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі.

Зразумела ж, для Маладзечна, куды сёлета «вярнуўся» фестываль, — гэта было свята. І ўсю Цэнтральную плошчу, а эстрадная пляцоўка была размешчана там, запоўніла ў асноўным моладзь гэтага слыннага беларускага горада, сапраўднага апірышча нашага роднага слова і музычнай культуры.

Творчыя вечарыны кампазітара Эдуарда Зарыцкага, спевака Якава Навуменкі, выступленні паэтаў Ніла Гілевіча і Уладзіміра Някляева, цудоўнае суправаджэнне сольных нумароў калектывам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраваннем Міхаіла Фінберга... Канешне, шаноўная публіка даволі эмацыянальна ўспрымала ўсё тое, што бачыла і чула. Такія паводзіны юнакоў і дзяўчат натуральныя. Уласна, інакш быць і не можа — беларускі верш, беларуская песня здольныя запасць у душу і выклікаць эмоцыі. Нашыя творцы і выканаўцы ні ў чым не ўступаюць тут расійскім, польскім ці ўкраінскім.

Але, як сведчылі самі маладзечанцы, хаця гэта не паказвалі па тэлебачанні, спецназаўцы, што з Менска прыімчалі ў Маладзечна на фестываль, падбягалі да гледачоў, якія пляскалі ў далоні, ускоквалі з месцаў, каб трошачкі падтанцаваць спевакам, хапалі ды груба цягнулі за межы Цэнтральнай плошчы. Калі ж падымалася ўся публіка, перад'ёю ўжо вырастала сцяна АМАПа з дубінкамі «нагола».

Такая вось «лыжка дзёгцю».

Адносна прысутнасці спецназа ў Маладзечне пад час фестывальных дзён і начэй я гутарыў з кіраўніком мясцовай арганізацыі БНФ «Адраджэньне», актывістам Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Алесем Цадко.

— Спадар Алесь, — спытаў я, — скажыце, калі праходзіў Нацыянальны фестываль у Маладзечне, мяркуючы па тэлерэпартажы, сёлета не было на трыбунах ніводнага бел-чырвона-белага сцяга?

— Не зусім так, — адказаў маладзечанскі палітык. — Некалькі бел-чырвона-белых сцягоў было, але тэлекамеры іх не паказалі. Ды і амапаўцы вялі з гістарычнай сімволікай самую сапраўдную барацьбу. І барацьбу — «паспяховую», бо іх сюды панаехала ажно 250 чалавек! Сцягі ў асноўным неслі хлопцы з Беларускага дэмакратычнага саюза моладзі, што зарэгістраваны і дзейнічае ў нашым горадзе. Спецназаўцы да гістарычнай сімволікі кідаліся яшчэ на падыходзе да «глядзельнай залы», агароджанай турнікетам. Прынамсі, на маіх вачах сцяг адабралі ў майго знаёмага юнака Барыса Сака.

— Не збівалі? У пастарунак не адвозілі затрыманых?

— Не, гэтага не было. Але палохалі, што адвязуць. А калі яшчэ раз тут убачаць са сцягам, то дадуць штрафу. У мяне асабіста склалася такое ўражанне, што АМАП сюды прыехаў менавіта для барацьбы з гістарычнай сімволікай, а гэта азначае — з палітычнымі мэтамі. Але ж роднае слова, родную песню нельга адлучыць ад роднага гістарычнага сцяга... Дарэчы, з тымі, хто на гэтыя фестывалі прыходзіў на падпітку, заўжды добра спраўлялася тутэйшая міліцыя. І сёлета яна абышлася б на свяце з роднымі п'яніцамі і калякрымінальным элементам сваімі сіламі. Няўжо нашыя ўлады не разумеюць: Маладзечна — гэта горад, дзе чырвона-зялёны ў арнаменце сцяг і герб «з каласкамі» не прайшоў на рэферэндуме. Няўжо нельга паважаць нашую адданасць да гістарычных сімвалаў хаця б на ўзроўні публікі Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі?

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра Беларускага Хельсінкскага камітэта.**

*Грамадскі рух*

# Канстытуцыя — закон для ўсіх

У грамадска-палітычным Цэнтры горада над Бугам прайшла навуковая канферэнцыя па тэме «Канстытуцыя як гарант пабудовы прававой дзяржавы».

Берасце ўжо мае традыцыі ў правядзенні такіх мерапрыемстваў. Раней была канферэнцыя з нагоды 50-годдзя Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта (тым часам інстытута). Тады становчай з'явай на яго адкрыцці быў даклад рэктара інстытута У.Сцепановіча на роднай мове. На жаль, эстафету беларускасці ў той час прадстаўнікі іншых ВНУ не падтрымалі, і размова вялася ў асноўным на «великом». Асабліва сорамна было за ВНУ з гучнай назовай «імя Францішка Скарыны» (калі не памыляюся, з горада Гомеля).

На гэты раз было інакш. Галоўным сімвалам канферэнцыі быў голас нашай зямлі — беларуская мова. Ёю, надзіва, добра карысталіся ўсе прамоўцы. На ёй яксна абменьваліся думкамі ўсе прысутныя. Нават калі пытанні гучалі па-ўкраінску ці па-расійску, адказы былі на дзяржаўнай беларускай мове. Ніхто не крыўдзіўся, і прымалася гэта ў парадку рэчаў. Міжволі ўзнікала думка: «Болей бы такіх аазісаў роднасці сярод пустыні нацыянальнага нігілізму».

У канферэнцыі прымалі ўдзел прадстаўнікі партый дэмакратычнага накірунку, прадстаўнікі грамадскасці — пісьменнікі, прадпрымальнікі, педагогі і інш. Сярод актыўных удзельнікаў сходу былі парламентары Вярхоўнай Рады РБ: П.Краўчанка, А.Дабравольскі, старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ кандыдат тэхнічных навук М.Статкевіч. З Берасця: сябры Рады БНФ Я.Бялясін і В.Мароз, старшыня філіі БРФПДР імя Сапегі Г.Праневіч, старшыня Рады БСДГ А.Ляўковіч (кандыдат філасофскіх навук), старшыня Берасцейскай арганізацыі АГП кандыдат тэхнічных навук М.Яроміч.

Галоўныя высновы канферэнцыі: першая — Рэспубліка Беларусь можа стаць цывілізаванай, еўрапейскага ўзору дзяржавай у першай чвэрці наступнага стагоддзя. Для гэтага ў Беларусі ёсць унутраныя і вонкавыя падставы. Галоўнай каштоўнасцю нашай дзяржавы з'яўляецца яе працавіты і сумленны народ. Другое — дзяржава застанецца прававой, калі Канстытуцыя — галоўны Закон будзе абавязковым як для радавога грамадзяніна, так і для першых асобаў дзяржавы.

На канферэнцыі прынятыя зварот да грамадзян горада Берасця і Берасцейскай вобласці, у якім адзначаецца, што ў Рэспубліцы Беларусь сістэматычна парушаюцца канстытуцыйныя правы грамадзян, што парушаецца права грамадзян на правядзенне мітынгаў і сходаў, на стварэнне свабодных аб'яднанняў. Практычна амаль поўнасцю выключана канстытуцыйнае права народа на атрыманне ўсебаковай дакладнай інфармацыі.

Канферэнцыя абвясціла пра сваё далучэнне да «Грамадскага руху ў абарону Канстытуцыі».

Трэба адзначыць, што афіцыйныя ўлады ў правядзенні гэтага мерапрыемства былі не вельмі зацікаўлены. Прадстаўнікі партый і грамадскасці да апошняй хвіліны і «крыху» больш чакалі прызначанага часу на вуліцы, пакуль адчыніць дзверы грамадска-палітычнага Цэнтра. Затое ўлады дбайна паклапаціліся аб прысутнасці праваахоўных органаў для «парадку». (Праўда, узале людзей у форме не было.)

Напаследак выкажу спадзяванне, што пакуль у Вярхоўным Савеце РБ будуць парламентарыі-рупліўцы, як П.Краўчанка, А.Дабравольскі ды іншыя, а народ нашай дзяржавы будзе «дабра і волі прагнуць», Беларусь не загіне.

**В.БАРБОЛІН,**
**сябра Рады ТБМ.**
г.Берасце.

*Ліст у рэдакцыю*

# «Двухмоўе» ў дзеянні

Мая сяброўка скасавала шлюб. Сумна, але гаворка пра іншае. Пасля ўсіх гэтых судовых пасяджэнняў і паходаў у ЗАГС атрымала яна пасведчанне. Калі мне трапіў на вочы гэты дакумент, то ён здаўся даволі цікавым.

Спытаеце, што там незвычайнага і пры чым тут «Наша слова»? Зараз зразумееце. Для тых шчаслівых, хто ніколі з такой паперынай справы не меў (і дзякуй Богу!), тлумачу — гэта бланк, падзелены на дзве паловы: злева — беларускамоўная, справа — тыя ж надпісы па-расійску. Цікава, што нумар дакумента, накшталт пашпартнага, змешчаны толькі на беларускай палове. Дык вось, на пасведчанні, выдадзеным Бабруйскім аддзелам ЗАГС, запоўнена толькі расійскамоўная старонка: пячатка, подпіс, усё як мае быць. А на другой палове — вялікая літара Z, якую канцылярышчыкі завуць «загародкаю». Такі вось яскравы «двухмоўны» дакумент. І я ўспомніла нашы працоўныя кніжкі. Тая ж з'ява: беларускамоўная палова не запаўняецца.

Памятаю, перад рэферэндумам столькі размоў было пра Швейцарыю ды Аўстрыю з іх дзяржаўным шматмоўем! Правамоцнасць такіх параўнанняў — тэма асобнай гаворкі, але хачу зазначыць адно. Калі б там дзяржаўны чыноўнік, маючы бланк дакумента на ўсіх дзяржаўных мовах, пісаў толькі на адной, нядоўга б ён займаў сваю пасаду. У нас жа — усё нармальна, усё ціха. А што? Вось калі б «загародку» паставілі на расійскамоўнай палове — лямант пра насілле быў бы забяспечаны.

Вось і ўзнікае пытанне да шаноўных змагароў за двухмоўе: калі згаданыя з'явы — раўнапраўе, то што тады такое дыскрымінацыя?

**С.ВЕРАС,**
**інжынер-канструктар.**
г.Бабруйск.

*Госць рэдакцыі*

# Беларускія настроі ў Чэрыкаве

*У рэдакцыю завітаў наш актыўны чытач і аўтар, малады грамадскі дзеяч з Чэрыкава Магілёўскай вобласці — намеснік старшыні раённай суполкі ТБМ і старшыня гісторыка-краязнаўчага клуба «Спадчына» Станіслаў Васільевіч Хахлоў. Мы не маглі ўпусціць магчымасць распытаць спадара Станіслава пра становішча спраў у іх суполцы, пра патрыятычны асветніцкі рух у рэгіёне.*



**— Спадар Станіслаў, вы працуеце ў Чэрыкаўскай раённай бібліятэцы не так і доўга — тры гады. Але гэтага часу вам, мабыць, хапіла, каб упэўніцца — ці задавальняе вас праца?**

— Цалкам задавальняе. Ведаеце, я спачатку марыў быць настаўнікам, але так здарылася, што закончыў спачатку Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, а потым бібліятэчны факультэт Інстытута культуры ў Менску (цяпер універсітэт), і зараз бачу, што не памыліўся. Праца ў бібліятэцы блізкая да педагагічнай.

**— Мабыць, праца ў бібліятэцы і прывяла вас у Таварыства беларускай мовы?**

— Так, безумоўна.

**— Як утварылася ваша суполка ТБМ? Хто ў яе ўваходзіць?**

— Мы заснавалі яе 4 красавіка 1994 года на ўстаноўчым сходзе ў нашай бібліятэцы. У яе ўвайшлі супрацоўнікі бібліятэкі, некаторыя настаўнікі і амаль усе сябры раённай арганізацыі БНФ. Узначаліла яе Ірына Міхайлаўна Несцерава. Яна выкладае ў пачатковых класах школы № 1 г.Чэрыкава. Зараз яна знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку, і мне даводзіцца выконваць абавязкі старшыні. Увогуле, я лічу, што гэтыя абавязкі і павінен выконваць мужчына. А ўсяго ядро суполкі складаюць дзесяць чалавек.

**— Значыць, справа нацыянальнага адраджэння на Чэрыкаўшчыне дзякуючы вам і вашым сябрам, трэба думаць, пайшла больш упэўнена?**

— Яно так. Я лічу, што ўсе работнікі культуры і настаўнікі павінны ўдзельнічаць у нацыянальным адраджэнні. Але, на вялікі жаль, гэтага яшчэ няма. У дадатным сэнсе магу сказаць пра калектыў настаўнікаў сярэдняй школы № 2. Яна непасрэдна не ўваходзіць у склад ТБМ. Але многія настаўнікі вядуць актыўную работу ў нашым гісторыка-краязнаўчым клубе «Спадчына». І паколькі я яго ўзначальваю, ён, па сутнасці, з'яўляецца часткай нашай гарадской арганізацыі ТБМ. На базе гэтай школы мы і праводзім пасяджэнні клуба. Гэтым годам, напрыклад, праводзілі пасяджэнне, прысвечанае 78-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі. Ужо два гады запар, у 1994 і 1995, на базе вучылішча кулінарыі адзначалі Дзень беларускага пісьменства і друку.

**— З кім вы там, у гэтым вучылішчы, працуеце — з выкладчыкамі, з навучэнцамі?**

— Працуем з вучнямі. Там мы праводзім, як умоўна называем, урокі неафіцыйнага настаўніка. Па дамоўленасці з кіраўніцтвам вучылішча нам даюць магчымасць на пэўных уроках выкладаць гісторыю Беларусі.

**— Мы — хто гэта?**

— Самы непасрэдны ўдзел у правядзенні ўрокаў неафіцыйнага настаўніка бяруць нашы дзяўчаты, супрацоўніцы бібліятэкі. Гэта Ларыса Грудзінава, наша метадыстка, Валянціна Завалішчына і Святлана Калілец. З школай № 1 мы, на жаль, такога кантакту не маем пакуль — там своеасаблівае асяроддзе. Таму мне хочацца падзякаваць намесніку дырэктара па выхаваўчай рабоце школы № 2 Валянціне Андрэеўне Чаўро і дырэктару гэтай школы Любові Іванаўне Прожанка, якая таксама заўсёды нас падтрымлівае. Нас апошнім часам нават запрашаюць на юбілейныя мерапрыемствы, на выпускныя лінейкі, пытаюцца, што мы можам правесці ў школе ці вучылішчы кулінарыі. Гэта нас падтрымлівае маральна і надае стымул працаваць.

**— Вы з сябрамі, па ўсім відаць, працуеце актыўна на асвету, патрыятычнае выхаванне маладога пакалення беларусаў. Займаецеся гэтым не так даўно, але ці можна гаварыць пра нейкі плён вашай асветніцкай дзейнасці?**

— Заўважана, што вучні, якія скончылі нашу школу № 2, вучылішча кулінарыі, духоўна раскаваныя, больш свабодныя. У іх сфармавалася, я б сказаў, некан'юнктурнае светаўспрыманне. Яны больш свабодна могуць выказваць сваё меркаванне пра жыццё, пра гістарычныя падзеі і факты, вызначаць сваю грамадзянскую пазіцыю.

**— Станіслаў, вы добра валодаеце беларускай мовай... А як з мовай у школьным асяроддзі — сярод настаўнікаў і вучняў? Як валодаюць роднай мовай вашы прыхільнікі, вучні, з якімі вы маеце справу ў вучэльнях?**

— Складанае пытанне. Мы жывём на ўсходзе Беларусі, дзе насельніцтва ў вялікай ступені русіфікаванае і ў большасці сваёй яно расійскамоўнае. І ў наш час застаецца вялікі ўплыў суседняй Расіі на моўныя працэсы ў нас. Ну і, вядома, за семдзесят з лішкам гадоў бальшавіцкага панавання ў людзях выхавалі рабоў. Але трэба сказаць, што наша асветніцкая дзейнасць і растлумачальная работа ўжо ўплываюць на тое, што паступова ў людзей пачынаюць мяняцца настроі.

Тыя дзяўчаты, з якімі мы праводзім мерапрыемствы, мовай валодаюць яшчэ недасканала, але стараюцца. Галоўнае, зацікаўленасць у правядзенні мерапрыемстваў у іх вялікая. Мы імкнёмся да таго, каб і сярод расійскамоўных людзей пашыралася кола беларускадумаючых, каб пашыраліся ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння.

**— Як можна характарызаваць дзейнасць вашай суполкі, вашага клуба «Спадчына» — чыста асветніцкай ці ў нейкай ступені і палітычнай?**

— У сваёй дзейнасці наша суполка робіць упор на асветніцкі аспект. Я лічу, што і мінулагодняе мерапрыемства, прысвечанае Дню памяці, было чыста асветніцкім. Яно было скіравана на тое, каб як мага большаму колу людзей раскрыць вочы на гістарычныя падзеі і факты. Ведаеце, калі мы ў 1994 годзе першы раз праводзілі Дзень памяці, выступалі, многія людзі плакалі.

**— Значыць, розгалас пра такія масавыя мерапрыемствы шырыцца?**

— Розгалас, безумоўна, ёсць. Калі летась 2 лістапада мы правялі Дзень памяці, камуністы вырашылі ў процівагу правесці сваё мерапрыемства 7-га. Яны і правялі свой нешматлюдны збор, але гэта было на ўзроўні афіцыйным, па камандзе. А мы не можам і не імкнёмся камандаваць людзьмі. Нам даводзіцца ўкладваць душу, каб зацікавіць, запаліць людзей.

**— Аднак калі камуністы правялі сваё мерапрыемства ў процівагу вашаму, значыць, яны бачаць у дзейнасці суполкі ТМБ свайго палітычнага апанента?**

— Напэўна... Вядома, у нашых варунках ад палітыкі, бывае, проста немагчыма адысці. Як прыклад, можна прывесці тое, што пад час выбарчай кампаніі мы з сябрамі збіралі сярод жыхароў Чэрыкава подпісы ў падтрымку кандыдата ў дэпутаты. Гэта была чыста палітычная работа, але была яна не на шкоду асветніцкай.

**— Хацелася б спытацца ў вас, спадар Станіслаў, як у бібліятэкара: як жыве сёння раённая бібліятэка? Якія цяжкасці ў яе, праблемы?**

— Вядома, цяжкасці ўзнікаюць. Напрыклад, пры правядзенні асветніцкай работы — і для суполкі ТБМ, і для самой бібліятэкі. Бібліятэка з'яўляецца асноўнай базай нашай суполкі, асноўным, як гаворыцца, асветніцкім цэнтрам. Патрэбна літаратура, а камплектаванне бібліятэкі цяпер, я так лічу, аднабаковае. Нам паступаюць дэтэктывы, фантастыка, усялякая спрошчаная літаратура, якая, на мой погляд, толькі псуе густы чытачоў. А вось пачала выходзіць 18-томная нацыянальная энцыклапедыя, выйшаў першы том, а нам ён не паступіў. Добра, што ў нас ёсць два тамы «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», ёсць энцыклапедыя «Беларуская мова», энцыклапедычны слоўнік «Беларусь». Наогул жа з беларускімі выданнямі — праблема. Выходзяць жа кнігі маладых аўтараў — паэтаў, празаікаў, але нам не паступаюць. У бібкалектары нам кажуць, што ў іх нестае беларускіх выданняў. А чаму? Мабыць, выдаюцца яны малымі накладамі. А людзі павінны мець магчымасць хоць у бібліятэцы азнаёміцца з усім, што выдаецца на беларускай мове.

**— Дзякую і поспехаў вам і вашым сябрам на ніве Адраджэння Бацькаўшчыны!**

Распытваў
**Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

*Меркаванне*

# Каго выхоўвае «школьны» Нясвіж?

Як вядома, Нясвіж — адна з тых кальсак Беларусі, дзе гадавалася беларуская нацыя. Тут (як і ў Капылі, Маладзечне і Вілейцы) захаваласяў сістэме адукацыі амаль некранутым роднае слова.

Апошні фактар несумненна можна аднесці на рахунак мясцовых уладаў Нясвіжа. І тое, напрыклад, што раённая газета працягвае выходзіць па-беларуску, а ў Нясвіжы пастаянна праходзяць самыя разнастайныя нацыянальныя фестывалі Беларусі — ад камернай музыкі да выканаўчага майстэрства чытальнікаў баек К.Крапівы. І, нарэшце, — тое, што акрамя аднаго расійскамоўнага малалікага класа для дзяцей вайскоўцаў у школах горада (а вясковыя школы спакон веку — беларускія) у раёне няма.

Але цяпер у Нясвіжы паціху ствараецца плацдарм, з якога можа павесці наступ на беларушчыну чужая нашай культуры і народным традыцыям сіла. І мацуецца гэта сіла ў школе, імкнецца ўплываць на дзяцей.

...Дык вось, калі сёння барацьба з «нацыяналістычнай палітызацыяй» падручнікаў, выпушчаных у 1992—1995 гг., дасягнула свайго апагея (па сведчанні шэрагу СМІ, яны звезены ў Заслаўскую кардаанжную фабрыку), то з дазволу мясцовых уладаў пачынаецца палітызацыя вучнёўскіх калектываў Нясвіжчыны. Адраджаюцца піянерскія арганізацыі, камсамол.

І варта пагартаць тую ж раённую газету «Чырвоны сцяг», каб стала зразумела: намаганні размножыць племя «юных ленінцаў» робіцца настойлівыя. «Адраджаецца піянерыя» — абвяшчае раёнка (№ 40, 1996 г.). «З канца мінулага года, — паведамляецца ў карэспандэнцыі, — у Нясвіжскай гімназіі (між іншым, — беларускай. — **А.М.**) дзейнічае піянерская дружына... Напярэдадні Дня абаронцаў (?!) Айчыны было прынята яшчэ 14 чалавек... Піянерамі сталі навучэнцы пятых-шостых класаў.

Усе піянеры добра падрыхтаваны. Яны вывучалі новы Статут піянерскай арганізацыі і палажэнне аб сімволіцы. Піянеры маюць чырвоныя гальштукі з сінім кантам»...

Піянераў скіроўваюць да ваенных ветэранаў. Гэта было б і добра, але абсалютная большасць тутэйшай ветэранскай арганізацыі — гэта людзі шчырага камуністычнага светапогляду, той ідэалогіі, якая прынесла столькі шкоды беларусам. І можна ўявіць, каго выхаваюць з нясвіжскіх дзяцей «несгибаемые» камуністы. Як мінімум — людзей, што будуць верыць: іхняя гісторыя пачалася з 1917 года, а не з Міндоўга ці Вітаўта, а іх адрас — Савецкі Саюз.

Камсамол у Нясвіжы робіць першыя крокі, але — упэўненыя. Улады, як гаворыцца, адчыніўі «маладым ленінцам» усе шлюзы — ідзіце ў школы, стварайце свае суполкі, агітуйце за камунізм. І раённая газета нават змяшчае здымак новаспечаных камсамольцаў разам з іхнімі педагогамі і прадстаўнікамі абласнога кіраўніцтва.

Можна толькі ўявіць, як бы аднеслася кіраўніцтва раёна, калі б БНФ «Адраджэньне», які мае статус грамадскай арганізацыі, пачаў бы ствараць тут свае суполкі. Кінулі б, бы на пажар, і міліцыю, і спецназ. У лепшым выпадку, актывістам нацыянальнага руху паказалі б знакаміты загад міністра Васіля Стражава пра забарону займацца палітычнай дзейнасцю ў школах.

Я папрасіў пракаментаваць спробу адраджэння палітычных арганізацый у вучнёўскіх калектывах актывіста ТМБ імя Ф.Скарыны, кіраўніка мясцовай філіі БНФ «Адраджэньне» настаўніка Алеся Язвінскага.

— Пра тое, што гэтыя арганізацыі чужыя для беларускага патрыятызму ў агульнацывілізаваным разуменні гэтага слова, — сказаў сп.Язвінскі, — сведчыць наступны факт. Спачатку, калі ў школах ствараліся піянерскія дружыны, то яны называліся скарынінцамі. А зараз ад гэтага наймення выракліся — сталіся проста піянерамі. Ну і самі гальштукі — чырвоныя без белай «разрадкі»... Не, нічога беларускага ў атрыбутыцы няма... Цяпер ужо ствараюцца і камсамольскія арганізацыі. Наколькі мне вядома, «зверху» іх нават раяць ствараць. І хаця гэта — суполкі Саюза моладзі Беларусі, якія не носяць назвы Ленінскага, але іхні Статут — гэта той жа Статут ВЛКСМ з невялічкімі рэдакцыйнымі папраўкамі.

Думаю, нічога добрага тут выхаванню беларускасці ў дзецях чакаць не даводзіцца, таму што ўход пойдзе «воспитание чувств интернационализма», славянафільства, а адтуль да асіміляцыйных спраў недалёка.

Хвалюе тая акалічнасць, што шаноўныя калегі, настаўнікі не разумеюць, якая небяспека хаваецца за палітызацыяй дзяцінства. Яны, праўда, гавораць: піянеры не займаюцца кепскімі справамі, наадварот — мастацкай самадзейнасцю, зборам макулатуры, дабрачыннай помаччу састарэлым. Але ж — гэта ўсё прынада. Галоўнае, каб дзяцей уцягнуць «в ряды», а потым ужо ў мазгі можна ўставіць усю бальшавіцкую тэорыю і вобраз мыслення.

* * *

Такім чынам — нацыянальныя падручнікі — на сметнік. А піянеры і камсамолу ў школах — шырокую дарогу?

І ўсё ж, мяркую, поступу Беларускага Адраджэння ў такім горадзе, як Нясвіж, ужо не перашкодзяць акрпленыя «ленінскай» вадзіцай камуністычныя фантомы.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**
г.Нясвіж.

# ВЕРУЕМ

## Маці Будслаўская, Маці Святая



У кожнага народа ёсць свая нацыянальная святыня. Усяму свету вядомыя месцы вялікіх пілігрымак, такія, як Фаціма ў Партугаліі, Люрд у Францыі, кляштар на Яснай гары ў Чэнстахове ў Польшчы, ці мілая сэрцу беларусаў віленская Вострая Брама.

Але ёсць у Беларусі месца, куды ўжо некалькі стагоддзяў кожны год, напярэдадні 2 ліпеня, ідуць сотні і тысячы людзей, каб пакланіцца цудадзейнаму абразу і прасіць у Божай Маці заступніцтва за сябе, сваіх родных і блізкіх, свой народ і краіну. Гэта мястэчка Будслаў, што на Мядзельшчыне.

Гісторыя святыні налічвае 400 гадоў. У сярэдзіне XVI ст. з'явіліся на месцы сённяшняга Будслава манахі-бернардзінцы з Вільні, якія і заснавалі першы кляштар. Гэта былі звычайныя драўляныя буды, якія і далі назву будучаму мястэчку. У пачатку XVII ст. для новага касцёла Узнясення Божай Маці, пабудаванага дзякуючы дзейнасці пробашча кляштара айца Канстанціна Пэнса, пачаў пісацца абраз Божай Маці.

На жаль, аўтар гэтага абраза застаўся невядомым. Вядома толькі, што ён пачаў пісацьабраз у 1612 г., а змены і дапаўненні ўносіліся аж да 1649 г. У архіве касцёла засталіся шматлікія сведчанні і апісанні цудаў, якія адбыліся за заступніцтвам Божай Маці.

Так, напрыклад, айцец Язафат сведчыў, што ў 5-гадовым узросце на цэлы год страціў зрок. Яго бацькі доўга маліліся перад цудадзейным абразом і ў дзень Унебаўзяцця Багародзіцы 1617 г. уявілі сына ў касцёл і ён стаў бачыць.

Рэгінальд Тышкевіч на працягу сямі гадоў хварэў на эпілепсію. Калі пачалася агонія, маці панесла яго да абраза і ён паправіўся (1619 г.).

Ёсць сведчанні Адама Стахоўскага (1630), да якога вярнуўся страчаны зрок, Барбары Дзенгеляркі (1639), якая была прызнана лекарамі безнадзейна хворай на ліхаманку, Яна Валадковіча (1645), моцна параненага пад час вайны распаленым ядром, якія цудам аздаравелі ля абраза Маці Божай Будслаўскай. Мясцовыя жыхары распавядаюць, як у 1941 г., калі нямецкія бомбы нішчылі Будслаў, людзі сабраліся ў касцёле і шчыра маліліся ля абраза, і ніводная бомба не трапіла ў касцёл.

Пазней бальшавікі спрабавалі закрыць будслаўскую святыню, але і тут, упэўнены вернікі, не абышлося без заступніцтва Багародзіцы, і касцёл увесь камуністычны час дзейнічаў.

Пачынаючы з 1992 г. аднавіліся пешыя пілігрымкі з усёй Беларусі і па-за яе межамі да цудадзейнага абраза. Тысячы людзей пераадольваюць сотні кіламетраў пешам, каб дайсці да цудадзейнага абраза, каб, укленчыўшы на прыступках яе алтара, вымавіць словы малітвы: Маці Божая Будслаўская — маліся за нас. Блаславі наш народ і Айчыну.

**Ян АСКЕРКА.**

## Канстанцін Вялікі — першы хрысціянскі цэзар

Гэтая асоба прыцягвае да сённяшняга часу ўвагу гісторыкаў і публіцыстаў і выклікае навуковыя палемікі. Цяжка ацаніць яго афіцыйнае выступленне на баку хрысціян, калі тыя былі яшчэ рэлігійнай меншасцю ў Рымскай імперыі, а таксама яго хрост, прыняты пры смерці. Няма сумніву аднак, што міланскі эдыкт гэтага цэзара і падтрымка хрысціян з'яўляецца адным з самых вялікіх пераломаў у гісторыі Царквы.

Вядома, што нарадзіўся цэзар Канстанцін каля 285 г. у Сербіі, яго бацькамі былі Канстанцый — генерал рымскіх легіёнаў і Алена — мясцовая жанчына. Але па палітычных матывах Канстанцый не ажаніўся з ёй. Маці Канстанціна сама выхавала сына спачатку ў паганскай рэлігіі і грэцкай культуры. У 315 годзе Святая Алена прымае хрысціянства, што не магло не адбіцца на яе сыне.

Ужо апынуўшыся ў Рыме, Канстанцін парваў з афіцыйным рэлігійным накірункам тэтрархіі і прыняў культ «непераможанага сонца», шанаваны ва ўсіх частках імперыі. Служачы гэтаму боству ўсёй дзяржавы, Канстанцін адчуваў, што пакліканы кіраваць імперыяй.

Выступленне супраць узурпатара Максенцыя, уладара Італіі і Афрыкі, стала пачаткам шляху Канстанціна да адзінаўладдзя. Захапіўшы верхнюю Італію, Канстанцін стаў пад Рымам. Тут і адбыўся яго паварот да хрысціянства. Як падаюць гісторыкі, Канстанціну ў сне было аб'яўленне, каб змясціў на сваіх вайсковых штандарах знак Бога і тады выйграе бітву. Канстанцін звярнуўся спачатку да свайго сонечнага боства, але на наступны дзень убачыў на сонцы знак крыжа і слова «пераможаш». Уначы да яго з'явіўся Хрыстос з Крыжам і параіў прыняць гэты знак як абарону і дапамогу ў бітве. Канстанцін змясціў манаграму на штандары і перамог у бітве, разбіўшы ўдвая большую армію праціўніка. Ад гэтага часу ён прыняў Хрыста за свайго Бога. Канстанцін трыумфальна ўвайшоў у Рым, яго вітаў сенат, у яго гонар была пабудавана трыумфальная арка. Але рымляне, тады яшчэ ў вялікай колькасці паганцы, не гаварылі адкрыта, дзякуючы якому Богу была дасягнута перамога. Першым вызнаннем дапамогі Хрыста стаў помнік у Рымскім Форуме. Цэзар стаяў са штандарам, на якім быў змешчаны хрысціянскі крыж. Унізе быў надпіс, што гэты знак выратаваў і вызваліў Рым ад улады тырана.

Пад час імператарства Канстанціна быў выдадзены міланскі эдыкт, хаця ўжо да гэтага ён выдаваў указы на карысць хрысціян, біскуп Гозій быў у яго дарадцам у царкоўных справах. Ён выдаў загады і скіраваў іх рымскім намеснікам у розных частках імперыі, у якіх забараняў праследаваць хрысціян.

У 313 г. у Мілане быў выдадзены эдыкт, у якім зазначалася, што ўсе падданыя імперыі атрымліваюць рэлігійную свабоду і могуць вызнаваць любую рэлігію. У гэтым была гарантыя зычлівасці з боку Найвышэйшага Боства.

Эдыкт гарантаваў бясплатнае вяртанне святынь і могілак. У цэзара было перакананне, што дзякуючы такому падыходу да хрысціянскай рэлігіі атрымае Божую ласку.

Перамога Царквы пад час цэзарства Канстанціна Вялікага з'яўляецца яшчэ дыскусійнай праблемай. Хрысціянства, рэлігія меншасці грамадзянаў імперыі, стала на працягу некалькіх гадоў у прывілеяваным стане. Тэорыя дэкадэнцыі бачыць прычыну ў распадзе паганскай культуры, тэорыя рэвалюцыі падкрэслівае, што гэта была перамога хрысціянізаванага пралетарскага класа над паганскімі вышэйшымі пластамі грамадства. Тэорыя палітыкі бачыць прычыну перамогі хрысціянства выключна ў яго падтрымцы Канстанцінам Вялікім. Усе гэтыя тэорыі, безумоўна, маюць права на жыццё. Але несумненна і тое, што Ісус Хрыстос і Яго Евангелле дзякуючы сваім унутраным вартасцям, асобнасці і абсалютнай навізне апярэдзілі ўсе іншыя рэлігійныя плыні таго перыяду, што і прынесла перамогу хрысціянству над паганствам.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Перспектывы дыялога

***Нягледзячы на прагрэс у сферы дактрыны, дыялог паміж каталікамі і праваслаўнымі сустракае пэўныя цяжкасці і перашкоды, асабліва ў краінах былога камуністычнага блока. З гэтай нагоды мы друкуем тэкст інтэрв'ю карэспандэнта радыё Ватыкана з вядомым праваслаўным багасловам нашага часу прафесарам Аліўе Клеманам, выкладчыкам Парыжскага багаслоўскага інстытута св.Сергія.***

**— Як Вы мяркуеце, ці існуюць цяжкасці ў дыялогу паміж праваслаўнымі і каталікамі?**

— І так, і не. Асабіста я быў моцна ўзрушаны, азнаёміўшыся з апошнімі дакументамі, апублікаванымі Папам Янам Паўлам ІІ і Святым пасадам з мэтаю падтрымкі гэтага дыялога. Я лічу, што апостальскае паслание «Orientale lumen», энцыкліка «Ut uno cum» адкрываюць новыя магчымасці да экуменічнага дыялога. Таксама вельмі важнай з'яўляецца і нота Святога пасаду, апублікаваная 13 верасня ў газеце «L'osservatore romano», бо дазваляе пераадолець перашкоды на шляху да паразумення. Многія праваслаўныя адзначылі высокую каштоўнасць гэтых дакументаў.

Гэта — станоўчыя аспекты. Але існуюць і цяжкасці. У праваслаўным свеце назіраецца крызіс інтэгралізму, падобны да таго, што адбываецца ў ісламе, хаця і менш сур'ёзны. Ён выкліканы нявызначанасцю пазіцыі канфесіі ў дачыненні да сучаснага свету. Пачатак XX стагоддзя быў адзначаны моцным імпульсам, пачынальнікамі якога сталі расійскія рэлігійныя мысляры і філосафы. Яны заклікалі вырашаць праблемы сучаснасці, беручы за аснову ўнутраны свет чалавека. Але гэты імпульс быў перарваны рэвалюцыяй. Сустрэча праваслаўя з сучаснасцю была скажоная камунізмам, што мела вынікам праслед і адмаўленне хрысціянства наогул. Потым камунізм абрынуўся. І тады, на мой погляд, Захад не здолеў скарыстаць выпадак аказаць рэальную і бескарыслівую дапамогу краінам Усходняй Еўропы, асабліва Расіі. У гэтых краінах распаўсюдзіліся амерыканскія секты, культ грошай, наркотыкі, сексуальная разбэшчанасць. Гэткія змены напалохалі многіх праваслаўных вернікаў, якія сказалі: з гэтага можна зразумець, што Захад і сапраўды гніль, як нам раней казалі, а значыць, мы мусім ізалявацца ад свету.

Гэтыя змены ў свядомасці людзей ускладняюць іх адносіны з Захадам наогул і каталіцкай Царквою ў прыватнасці. Акрамя таго, у стасунках праваслаўных з каталіцкай Царквой ёсць супярэчнасці, якія склаліся гістарычна, з усімі іх забабонамі і міфамі.

Варта ведаць, што драма, якая адбываецца ў Босніі, пагоршыла сітуацыю. У той ступені, у якой Захад выстаўляў сербаў вінаватымі, праваслаўны свет рабіў гэта ў дачыненні да харватаў і мусульман. Тут адзін аднаму супрацьстаялі два розныя светапогляды, прадстаўнікі якіх ніяк не паразумяваліся паміж сабой.

**— Нядаўна адбылася Вашая сустрэча з Папам Янам Паўлам ІІ. Вы станоўча адзываліся аб апошніх ініцыятывах Святога пасаду і жэстах-сведчаннях большай адкрытасці ў дачыненні да праваслаўных. Што Вам, праваслаўнаму багаслову, здаецца самым важным у справе працягу дыялога з каталіцкай Царквой?**

— Я лічу, што праваслаўныя цяпер павінны сказаць сваё слова. Бо дыялог ёсць размоваю двух бакоў. Мы павінны быць адкрытымі да паразумення і гаварыць так, каб быць зразумелымі іншаму боку. Але ўзнікае пытанне: надышоў час дыялога ці не?

Верагодна, давядзецца яшчэ чакаць, каб людзі былых камуністычных краін адрадзілі жывую праваслаўную веру.

А пакуль што дыялог можа адбывацца толькі паміж асобнымі людзьмі. У праваслаўным свеце шмат такіх асобаў. Я лічу, што цяпер надзвычай важным ёсць утварэнне грунту для прыязні паміж каталікамі і праваслаўнымі.

**Падрыхтаваў У.П.**

## Рэлігійная хроніка

У пачатку чэрвеня адбылася пілігрымка беларусаў з Паўночнай Амерыкі і іншых краін да беларускага памятнага Крыжа ў Мідлэндзе (Канада), пастаўленага ў гонар 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі. Побач з Крыжам была ўсталяваная памятная дошка з імёнамі беларусаў, загінуўшых у гады чырвонага і карычневага таталітарызму. Урачыстую літургію ў памяць па загінуўшых адслужыў апостальскі візітар для беларусаў на эміграцыі мітрафорны пратаіерэй айцец Аляксандр Надсан.

***

Праваслаўны мітрапаліт Нікалае Карнэану з Румыніі выказаў сваё перакананне ў тым, што ліквідаваная румынская грэка-каталіцкая Царква сёння адыгрывае важную ролю ў жыцці краіны. «Я думаю, што грэка-каталіцкая Царква разам з праваслаўнай Царквой будуць працаваць на справу аб'яднання Румыніі», — сказаў праваслаўны іерарх. Ён выказаўся таксама за вяртанне ўласнасці грэка-каталікам.

Каталіцкая Царква ў Румыніі як рымскага, так і грэцкага абрадаў атрымала свабоду ў красавіку 1990 г. Каталікі сталі дамагацца вяртання сваёй маёмасці, якая была ў іх канфіскаваная ў 1948 г. камуністычнымі ўладамі Румыніі.

У 23-мільённай Румыніі грэка-каталікі складаюць 1%, рыма-каталікі — 5%, праваслаўныя — 87%.

***

Згодна з паведамленнем Папскай Рады Душпастарства службы здароўя, Каталіцкая Царква валодае 22 тысячамі ўстаноў аховы здароўя ў 135 краінах свету. З іх 11 тысяч шпіталяў, звыш 4 тысяч паліклінік і каля 5 тысяч дамоў састарэлых.

***

Камп'ютарам падлічана, што Біблія ўтрымлівае 1328 раздзелаў, 40 030 вершаў, 773 692 словы і 3 564 050 літар. Слова «Яхве» (Бог Айцец) сустракаецца 6855 разоў.

**Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў падрыхтаваў А.Н.**

ВУЧЫМСЯ

Вікторыя ЛЯШУК,
кандыдат філалагічных навук

# Стрыжань

## Пра лён — прасцей

*(Заканчэнне.)*

Яркасць, маляўнічасць, вобразная іншасказальнасць дасціпнай загадкі пра лён — «прыйдзе восень, заб'ю лося...», адзначанай народным гумарам і назіральнасцю, — удалы ўступ для зацікаўленай размовы з чытачом, разлічаны на яго актыўны ўдзел, сумесную з аўтарам артыкула разумовую працу. Загадка як жанр мастацкага стылю ўплывае на мову навукова-папулярнага падстылю, вызначаючы яго мастацкасць, што гарманізуе, спалучае ў стылёва стройны тэкст звесткі з розных культуразнаўчых навук.

Акрамя дакладных фактаў, прыводзіцца слушнае меркаванне пра магчымыя гандлёвыя сувязі беларускіх земляў з Рымскай дзяржавай. Спасылка на старажытнагрэцкіх паэта Гамера і гісторыка Плутарха без аніякіх тлумачэнняў пра гэтыя гістарычныя асобы разлічана на даволі высокі адукацыйны ўзровень чытачоў, пра што сведчыць і спецыяльная тэрміналогія (**біблейскі герой, фараон, жрэц, егіпецкія фрэскі, зімовы і летні сонцавароты, вясновае раўнадзенства, куцця, Купалле**). Пры патрэбе, менш вядомыя гістарычна-этнаграфічныя паняцці, уласныя імёны тлумачацца праз удакладненне, напрыклад, пададзеную ў дужках другую назву: **Улас (Масленіца)**. Выкарыстана і характарыстыка азначэннем — **персідскі цар Ксеркс**.

У тэксце дэталізавана распавядаецца пра магічныя дзеянні для вырошчвання жыццёва важнай расліны, узгадваецца разнастайнае яе выкарыстанне ў побыце і народных абрадах, пералічаны рэчы з ільну — гэтым вызначаецца інфармацыйная насычанасць зместу.

Заключэнне артыкула з'яўляецца лагічным працягам уступнай загадкі, бо ў ім развіваецца вобраз незвычайнага «лося», адухаўляецца працэс апрацоўкі лёну: **Вылежаўся «лось» на сарака росах**... Выкарыстанне дзеясловаў цяперашняга часу — **ляскацяць** (церніцы), **сыплецца** (кастрыца) і абагульняльнага для іх дзеяслова **працягваецца** — перадае ідэю пераемнасці прошлага і сучаснасці.

Элементы навукова-папулярнага падстылю ствараюць гістарычна-культурны адукацыйны план у навукова-вучэбным тэксце пра лён, змешчаным у главе «Тэхнічныя культуры» вучэбнага дапаможніка для педагагічных вучылішчаў «Батаніка» Б.Е.Жадоўскага, перакладзенага на беларускую мову і выдадзенага ў 1941 г. Сухому навуковаму апісанню папярэднічае навукова-папулярны агляд у эмацыйна-стрыманым стылі: **Радзімай ільна лічыцца Заходняя Азія. Час увядзення яго ў культуру губляецца ў далёкім мінулым. Пры дапамозе мікраскопа ўдалося выявіць ільняное валакно і прытым высокай якасці ў вельмі старадаўніх тканінах, якія адзяваюць егіпецкія муміі. За працяглы час яго культуры ў розных краінах ён падвергся вялікім зьмяненням і ў цяперашні час мы маем рад форм. У нас найбольш вядомымі з'яўляюцца лён-даўгунец і лён-кучаравец.**

На жаль, у сучасных нацыянальных падручніках і вучэбных дапаможніках пра лён сказана недаравальна мала.

Як бачым, расказаць пра лён прасцей, з імкненнем пашырыць у грамадстве навуковыя веды, зусім не проста, бо трэба ўмець знаходзіць сродкі і спосабы гарманічнага спалучэння займальнай, звычайна эмацыйна вобразнай, формы з навуковым зместам, — праз дасканалы стыль.

Практычная стылістыка

# Што лічыць памылкай

«Уласна кампазіцыйнымі памылкамі можна лічыць абыякавае расчляненне выказвання (тэксту) на састаўныя часткі...» У цытаванай вытрымцы з навукова-папулярнага выдання па культуры беларускай мовы неабходна ўдакладніць некаторыя словы, ужытыя без уліку іх значэння і стылістычных асаблівасцей. Напрыклад, слова **можна** выражае дапушчальнасць, а не абавязковасць сцверджання, вынікам чаго з'яўляецца прыблізнасць і няпэўнасць крытэрыяў вылучэння памылак (можна лічыць памылкай, а можна і не лічыць). Гэта супярэчыць патрабаванням навуковага стылю выразна і адназначна фармуляваць высновы. Варта ўжыць больш катэгарычныя формы сцверджання: **неабходна лічыць, лічыцца, адносяць** і інш.

У спалучэнні **абыякавае расчляненне** патрабуюць аналізу абодва словы, бо супярэчаць выказванню і стылем, і значэннем. Слова **абыякавы** характарызуе звычайна асобу — раўнадушную, нецікаўную, і праявы нецікаўнасці, чым вызначаецца яго спалучальнасць — **абыякавы чалавек, абыякавы тон, абыякавы голас, абыякавае стаўленне.** У такім выпадку адмоўная характарыстыка **абыякавы** мае стылёвае адценне незадаволенасці, асуджэння, дакору, што не меркавалася выказваць у цытаванай вытрымцы — безэмацыйнай па задуме. Стылю і зместу будзе адпавядаць агульназразумелы выразны тэрмін **няправільны**.

Недакладна ўжыта слова **расчляненне**, аддзеяслоўны назоўнік, што абазначае 'раздзяленне на часткі ці састаўныя элементы', і звязаны з канкрэтным дзеяннем. Фармуе такую асаблівасць прыстаўка **раз-(рас-)**, якая можа абазначаць адасабленне, раз'яднанне, парушэнне цэласнасці, знішчэнне. Прыкладам прывядзём словы **разысціся, разбіць, раззбраенне, рассакрэчанне, развод**. Умоўны падзел на часткі, складнікі, пры якіх не парушаецца цэласнасць аналізаванай з'явы, абазначаецца тэрмінам **чляненне**.

Улічыўшы заўвагі, прапануем наступныя варыянты выпраўлення:

**Да ўласна кампазіцыйных памылак належыць няправільнае чляненне выказвання (тэксту)...**

**Кампазіцыйнай памылкай з'яўляецца няправільнае чляненне выказвання (тэксту)...**

**Няправільнае чляненне выказвання (тэксту) на абзацы трэба лічыць (лічаць, лічыцца) уласна кампазіцыйнай памылкай.**

З гісторыі красамоўства на Беларусі

# Дарчая Вітаўта 1399 г.

Сведчаннем актыўнага ўплыву князя Вітаўта на полацка-рыжскія дачыненні з'яўляецца дакумент, датаваны 6 сакавіка 1399 г., напісаны ў форме дарчай рыжскаму купецтву, прадстаўніком якога на перамовах названы Цідэман Ніенбруге, член рыжскай гарадской рады ў 1389—1400 гг. Умовы гандлю ў гэтай грамаце сфармуляваны з вялікімі адрозненнямі ад аналізаванай ужо намі пацвярджальнай Манцігірда, — адчуваецца ўплыў больш старажытных міждзяржаўных дамоў, для якіх характэрна, напрыклад, ужыванне слова **рубеж** (у дамове 1229 г., грамаце Гердзеня 1263 г.). Дакумент уключае тры артыкулы, падрабязнае датаванне. Памета «сам» сведчыць пра асабісты загад князя на складанне граматы. Сведчаннем пра ўплыў заходніх традыцый, нямецкамоўных і лацінамоўных афіцыйных папер, з'яўляецца найменне князя (інтытуляцыя) асабовым займеннікам **мы**:

**Мы великии князь Витовтъ дали есмо сию грамоту буркгимистру ризскому Никгиборку и всѣмъ нѣмцем, купцем ризским, и иным всѣм, што ж оу Полоцку полочаном добрым людем цѣловати крестъ на том, што имъ чинити нѣмцем все оу правду и оу вѣсъм и оу торговли и во всяком торговомъ дѣлѣ.**

**А тако ж оу Ризе к полочаном цѣловати крестъ нѣмцем и добрым людем на том, что полочаном чинити все оу правду и оу вѣсѣх и оу торговли и во всемъ торговом дѣлѣ.**

**А рубежа не чинити промежи себе на обѣ сторонъ ни нѣмцем, а ни полочаном.**

**Знати истцю истьця**

**А на то на все дали есмо сию грамоту и печать свою велѣли привѣсити.**

**А псан оу Полоцку оу четвергъ четвертоѣ недли поста марта оу шестый день по божьем нароженьи вышло лѣт тысяча и четыри ста без одиного лѣта.**

Найбольш падрабязны і шырокі зместам першы артыкул, у якім фармулюецца адказнасць кожнага з дамоўных бакоў праз цалаванне крыжа, што паўторана двойчы — у дачыненні палачан і рыжан.

Другі і асабліва трэці артыкулы нешматслоўныя. Вучоныя адзначаюць у іх адзнакі старажытных традыцый, дамоўных двухбаковых дакументаў, а таму лічаць, што яны ўключаны пры ўдзеле рыжскага боку.

Пергаменны арыгінал пазначаны пячаткай з выявай вершніка ў шаломе з мячом на плячы і шчытом, конь якога накіраваны ўлева. Акрамя гэтай адзнакі дзяржаўнасці, пра літоўскія (беларускія) рэаліі сведчыць стыль і мова дакумента, у якіх А.І.Сабалеўскі адзначае арфаграфію полацкага пісца, якая прасочваецца і ў сучасных формах і словах (**у Полацку, што, чыніць, у Рызе, па божым нараджэнні, адзіны**).

Дарчая грамата Вітаўта 1399 г. склала аснову далейшых полацка-рыжскіх дамоў, якія адбыліся ў 1405—1407 гадах.

Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»

Валянціна ВЫХОТА

# Коласавы зернеткі

*(Шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў)*

*Там можаш быць з суседзьмі ў згодзе,*
*Другое дзела — воласць блізка,*
*І то не дробная, брат, **рыска**:*
*Там школка ёсць, а дзецям трэба*
*Даўно навука і вучоба.*

На думку аўтара паэмы, «дробная рыска» выступае як «дробязь».

**ДРОБЯЗЬ**// Што-н. нязначнае, малаважнае (ТСБМ).

Маловажный, это дело не маловажное es ist nichts Geringes (PHC).

*І дзіўна рэч: цяпер драбніца*
*Ці проста **рысачка** якая*
*Значэнне, сэнсу набывае*
*І з гэтай смерцю сувязь мае,*
*Ці куры ў хаце сваім дурам*
*Падымуць часам шурум-бурум...*

У гэтым урыўку слова *рысачка* мае значэнне знаку прадвесця.

**Знак** 2.Vorzeichen n (предзнаменование) (PHC); Vorzeichen n 1. Предзнаменование; предвестник: an böse Vorzeichen glauben верить в приметы, быть суеверным (GDRW); примета 2. (предзнаменование) Vorbedeutung f (PHC); Vorbedeutung f предзнаменование, предвестие; das ist von guter [böser, schlechter, schlimmer] Vorbedeutung — это добрая [дурная примета] (GDRW); предвещать: это не предвещает ничего хорошего das ist von schlechter Vorbedeutung (PHC).

Сэнс слова *рысачка* ў гэтым кантэксце выражаецца нямецкімі словамі Vorzeichen, das ды Vorbedeutung, die. Сінанімічны слоўнік (SW) не дае гэтыя словы як сінонімы, хоць, як бачым па іншых слоўніках, гэтыя словы выступаюць як блізказначныя.

Гісторыя слова: «Наша слова» № 47 (259) 1995 г.

*Бо людзі свежы тут і новы,*
*Кранеш адно, ўсплыве другое;*
*Такі ж і трэба сёе-тое*
*Абмеркаваць, як мае быць,*
*Аб тым, аб сім пагаманіць,*
*І з той размовы асцярожна*
*Што-небудзь вывудзіць і можна,*
*Ці слоўка, **рысачка** якая, —*
*Усё гэта часам памагае*
*Зірнуць на справу іншым вокам*
*І падысці да яе бокам.*

**Рыса** 4. перан. Прыкмета, асаблівасць, якасць (ТСБМ). (Слоўнік сінонімаў М.Клышкі дае: **асаблівасць, рыса, адмета** і інш.)

Відавочна, слова *рысачка* ў гэтым кантэксце мае значэнне нейкай адметнасці, якая дасць героям паэмы ўрэшце зрабіць вынік з размовы з Фядосам Хадыкам. **Адметны.** Не падобны да іншых; своеасаблівы, непаўторны, характэрны (ТСБМ). **Адметны** отличительный; отличный, заметный (БРС). Отличительный eigentümlich (PHC). Сінанімічны слоўнік (SW) падае: eigentümlich 1. (als auffallendes Merkmal <..>) charakteristisch, spezifisch і інш.; 2. merkwürdig.

Культура мовы

Алесь КАЎРУС

# Згубілася галоўнае

Звярнуў увагу на публікацыі Вікторыі Ляшук у газеце «Наша слова». Адчуваецца лінгвістычная дасведчанасць аўтара, добры моўны і эстэтычны густ і, што надта важна, беларускі дух.

Чыста выпадкова болей учытаўся ў матэрыялы за 6 чэрвеня г.г. пра навуковы стыль. У цэлым назіранні над тэкстам і сказам, а таксама тэарэтычныя звесткі і вывады не выклікаюць пярэчання.

Разам з тым тут добра відаць, якая гэта далікатная і тонкая, бяздонная і бязмежная галіна мовы — стылістыка, хай сабе нават практычная. Пэўна ж, сказаць **усё** (што бадай немагчыма) перашкаджае і абмежаваная плошча, якая адводзіцца пад моўныя нататкі ў «Нашым слове».

В.Ляшук аналізуе сказ «На пярэдні план высоўваецца (?) развіваючая функцыя маўленчай работы», адзначае яго хібы, паказвае, як іх унікнуць. Праўда, аналіз і рэдагаванне сказа ўскладняе тое, што ён пададзены ізалявана, вырваны з кантэксту. Зусім верагодна, што калі б гэты сказ разглядаўся ў тэксце навуковага стылю, ён бы не выклікаў на сябе такога агню крытыкі.

Аўтарка занадта катэгарычная, калі словазлучэнне *на пярэдні план* лічыць «стылёва памылковым, бо спалучаны часткі двух розных, устойлівых па структуры словазлучэнняў *пярэдні край* і *першы план*».

Тое, што словазлучэнне *на пярэдні план* з'явілася, як мяркуе В.Ляшук, у выніку кантамінацыі двух іншых, яшчэ не падстава, каб адносіць яго да стылёва памылковых ужыванняў. «Стылёва памылковым» згаданае словазлучэнне было б тады, калі б яно не адпавядала кантэксту сваёй стылістычнай афарбоўкай. Але ж гэтага недахопу ў ім няма.

І з боку ўтварэння наўрад ці яно памылковае. Існуюць жа ў літаратурнай мове выразы: першы план — другі план, пярэдні план—задні план. Што словазлучэнні *першы план* і *пярэдні план* могуць ужывацца як сінанімічныя, ускосна пацвярджаецца расійскай мовай. У «Словаре русского языка» (М., 1983) фразеалагізм *первый план* тлумачыцца — *передний план.*

Варта пагадзіцца з В.Ляшук наконт замены дзеяслова *высоўваецца* на дзеяслоў *выступае.* Але вось яна піша: «Непрымальнае слова *высоўваць* і як адпаведнік расійскаму *выдвинуть (Гэту ідэю высунуў* (?) *вядомы даследнік).* На такі выпадак у беларускай мове існуюць словы *прапанаваць, сфармуляваць (Гэту ідэю прапанаваў...)».*

Мушу ўдакладніць. І ў расійскай мове ёсць адпаведныя словы *предложить, сформулировать,* але там чамусьці ўжываецца і дзеяслоў *выдвинуть (выдвинуть идею).* Не сказаць, каб гэты расійскі дзеяслоў з пераносным значэннем быў вышэйшы ў стылістычным статусе за беларускі *высунуць.* Але носьбіты расійскай мовы прывыклі, прызвычаіліся да яго ўжывання. Чаму ж мы павінны адмаўляць права беларускага слова мець пераноснае значэнне? Дый, зрэшты, ці трэба гэта даказваць? Акадэмічныя слоўнікі падаюць дзеясловы *высунуць, высунуцца, высоўваць, высоўвацца* без стылістычнай пазнакі «гутарковае».

І слова *работа,* і слова *дзейнасць* стылістычна нейтральныя. Таму калі і замяняць словазлучэнне *маўленчая работа* тэрмінам *маўленчая дзейнасць,* што лічыць патрэбным аўтарка, дык такую замену можна абгрунтаваць не стылістычнымі вымогамі, а патрабаваннем дакладнасці мовы. (Незразумела, аднак, якое паняцце ўкладзена ў тэрміналагічнае спалучэнне *маўленчая работа.*)

Зыходзячы з таго, што дзеепрыметнікавыя формы з суфіксам *-юч-* беларускай мове неўласцівыя, В.Ляшук прапаноўвае замест *развіваючы* напісаць прыметнік *развівальны (развівальная функцыя).* У гэтым яе можна падтрымаць. Але ў беларускай мове ўжо існуе і ўжываецца слова *развіццёвы.* Параўн.: *развіццёвае навучанне, развіццёвая функцыя.*

З улікам паправак, зробленых В.Ляшук, сказ набыў выгляд: На першы план выступае развівальная функцыя маўленчай дзейнасці.

Далей аўтарка заўважае: «Можна і варта сказаць больш зразумела: Галоўнай функцыяй маўлення з'яўляецца інтэлектуальнае развіццё асобы».

Сапраўды, сказ стаў больш выразны і акрэслены. Але ён далёка адышоў ад арыгіналу, у якім гаворыцца пра *месца* «развіваючай функцыі маўленчай работы» ў чымсьці (у апошняй рэдакцыі вызначаецца *роля* маўлення ўвогуле). Не адпавядае першапачатковаму зместу сказа і само сцвярджэнне: «Галоўнай функцыяй маўлення з'яўляецца інтэлектуальнае развіццё асобы».

Такім чынам, пастаўленае ў назве нататкі пытанне «Што галоўнае?» застаецца без адказу. Захапіўшыся дасканаленнем, перабудовай сказа, аўтарка выпусціла з-пад увагі яго моўнае значэнне.

# КІНА-ВІДЭА-АЎДЫЁ-ШОЎ-НАВІНЫ

ГІТ

## Арнольд – стрыечны сын Радаслава?

Актыўна адгукнуліся чытачы «Нашага слова» на з'яўленне старонкі кіна-відэа-аўдыё-шоў-навінаў «Гіт» у нашай газеце. Некаторыя з водгукаў (тэлефанічных і лістоўных) знайшлі свой адказ у наступных выпусках «Гіта» ды паасобных публікацыях на тэмы роднамоўнай мас-культуры. А сёння хочам звярнуць увагу на допіс нашай баранавіцкай чытачкі Вікторыі Старыкавай, якая сцвярджае: «У адным з травеньскіх нумароў «НС» пад рубрыкай «Гіт» публікавалася стракатая падборка актуальнейшых звестак сусветнага шоў-бізнесу, і, як я заўважыла, усе яны датычылі пэўным чынам Беларусі: то амерыканскі баявік нехта пераклаў на беларускую мову, то нейкія музычныя супер-гіты за мяжой разгортваюць беларускую тэматыку, то нашыя гадаванцы, занядбаныя тут, знаходзяць свой Алімп у Глазга, Мюнхене, Лондане... Але вось адна інфармацыя падалася мне прышытай сюды белымі ніткамі: тая, дзе славутаму **Арнольду Шварцэнэгеру** прапанавалі зняцца ў ролі нейкага індыйскага боса, а ён нібыта больш падобны на беларускага боса, накшталт **Радаслава Астроўскага**. Нешта моцна я сумняваюся ў гэтым«.

А што тут, між іншым, сумнявацца, Віка? Зірніце на партрэты двух гэтых згаданых босаў і, бадай, вы не адразу знойдзеце, дзе тут Шварцэнэгер, а дзе тут Астроўскі. Ствараецца нават уражанне, падмацаванае ўзроставай розніцай абодвух герояў, ці не заскокваў пад час вайны атрад стомленых байцоў БКА ў адно аўстрыйскае мястэчка і ці не прытуліўся ціхай паваеннай ночкай спадар Радаслаў да якойсьці беларускамоўнай аўстрыячкі, Чорны Негр якой усё бадзяўся на паралельных франтах?

## Хто шануе сябе, таго шануе свет

Не прайшло непрыкметным для чытачоў «Нашага слова» і змешчанае ў мінулым выпуску старонкі «Гіт» (№ 24, 13 чэрвеня г.г.) паведамленне пра конкурсы Беларускай рэдакцыі Польскага радыё: адны прасілі ўдакладніць час выхаду ў эфір беларускамоўных перадачаў з Варшавы, другія з радасцю паведамлялі, што таксама апынуліся сярод прызёраў тых конкурсаў, расказваючы пра апошні з атрыманых сувеніраў ад замежных сяброў.

Гэта — 2 CD сусветна вядомага польскага дырыжора і кампазітара **Кшыштафа Пендэрэцкага «Gala Concert»** (на здымку). У запісе альбома прымалі ўдзел і іншыя прадстаўнікі польскага музычнага бамонду — аркестр «Simfonia Varsovia» і альтавая спявачка, каралева «Ля Скалы», «Эліс Талы Гола» і «Ковэнт Гордэна» Ева Подлесь.

Цікавы прыклад для беларусаў, як з павагай да сябе падаць свае вартасці свету: гэта 2 CD «Gala concert», вокладка і кружэлкі якога аддрукаваны паводле найвышэйшай тэхналогіі ў Нямеччыне, прэзентуе выступы польскіх майстроў у Севільі, на сцэне Teatro de la Maestranza, а выконваюцца творы Людвіга ван Бетховена, Мануэля дэ Фалья, самога Пендэрэцкага і польскай кампазітаркі пачатку XX стагоддзя Гражыны Бацэвіч.

Калі дадаць, што ўвасабленнем гэтага творчага праекта займалася лонданскае выдавецтва «Chester», дык мы зразумеем, што выданне гэтае будзе блізкім і родным не толькі палякам, але і немцам, іспанцам, брытанцам... Прычым кожны асэнсуе сябе праз польскае мастацтва, здолеўшы застацца самім сабой.

Ну і больш падрабязна пра гэта слухайце ў беларускіх перадачах Польскага радыё штодзень у 14.30 на кароткіх хвалях 41,18 м і 42,89 м, у 16.30 (41,27 і 49,22 м), у 18.30 (41,78 м і 49,22 м) ды ў 21.00 (41,78 і 50,72 м). Для ўладальнікаў лічбавых радыёпрыймачоў падаём асноўны выбар частотаў: 7285, 5995, 6095, 5915 МГц.

## Вяртанне Вальжыны Цярэшчанкі

Доўга не было нашай супер-зоркі бардаўскай песні, залатагалосай **Вальжыны Цярэшчанкі**. На адным з канцэртаў 1993 года яна (на здымку) засмуціла сваіх прыхільнікаў нечаканай абвесткай: «Па сямейных абставінах я вымушана пакінуць сцэну, гэта будзе мой апошні выступ».

Як ні дзіўна, гэта не было жартам: вось ужо больш як два гады не пяяла нам сваю мілагучную песню ні ў Гомелі, ні ў Менску Вальжына Цярэшчанка. Але самае дзіўнае, краіна гэта стрывала. Нават радыё наша, якое не дае замаўчаць нават мёртвым зоркам з Усходу, не нагадала незабыўны голас той, якая ўсхамянула беларускім спевам радыёэфір Польшчы, Чэхіі, Канады, Нямеччыны.

**А сямейныя абставіны Вальжыны** зусім не такія змрочныя, каб не парадаваць імі прыхільнікаў спявачкі. Папросту, яна нарадзіла сына, назвала яго Францішкам (Францішак Яўсеенка), падгадавала і... прыехала ў Менск распачынаць другі этап свайго зорнага шляху.

Кам-бэк Вальжыны Цярэшчанкі азнаменаваўся канцэртам на славутай менскай **Вольнай сцэне**. Білеты былі раскуплены задоўга перад падзеяй. У рэпертуар імпрэзы ўвайшлі і славутыя супергіты мінулых гадоў («Запяі мне песню», «Жаданне», «Дзяўчаці», «Мы — паэты», «Трызненне», «Айчына, радзіма!» і шэраг новых твораў Вальжыны, у тым ліку запяяных дуэтам з бардаўскай спявачкай з Польшчы **Маруськай**.

## Падарожжа «Уліса» працягваецца

Сяк-так улягліся плёткі аб распадзе беларускага рок-руху: публіка прызвычаілася ўжо, што «НРМ« — гэта тая ж «Мроя», а «Крама» — хоць і не сімбіёз «Рэя» з «Бондай», але даўно ўжо прыкметны нацыянальны шоў-прадукт. Вось толькі ёсць усё ж зласліўцы, якія нібыта са спачуваннем любяць паплакаць аб стратах. Асабліва не прасыхаюць слёзы па гурце **«Уліс»**. Дый не дзіва — на нацыянальным рок-небасхіле «Уліс» меў, бадай, найбольш прыкметны даробак: ягоныя кружэлкі выходзілі ў Польшчы і Расіі, канцэрты адбываліся ў Эстоніі, Польшчы, Нямеччыне, Вялікабрытаніі... Во была б страта, дык страта, але... Чуткі аб знікненні «Уліса» з зорнай дарогі моцна перабольшаныя.

Зусім нядаўна ў зале менскага Альтэрнатыўнага тэатра, а потым і на імпрэзе ў парку імя М.Горкага «Уліс» даў канцэрт разам з «**НРМ**». Адно, аб чым можна шкадаваць, гэта была апошняя акцыя Альтэрнатыўнага, памяшканне якога купіў пад свае патрэбы «Прыёр-банк» (той, што непісьменныя называюць «Пріор-банкам», аналагічна «Пошюку» ці, дакладней, «Поіску»). На канцэрце можна было набыць зграбнае выданне апошняга альбома «Уліса», які мае назву «Life, 1996».

Цяпер канцэрты прыпынены дзеля завяршэння новага студыйнага праекта, над якім «Уліс» працуе ў крыху змененым складзе: Вячка Корань (гітара, вакал) — яго вы бачыце на здымку, Аляксей Паўловіч (бас-гітара), Ігар Маскаленка (барабаны), Ягор Марачук (гітара). Тым часам прапрацоўваюцца варыянты новых гастрольных маршрутаў (Магілёў, Кіеў, Варшава, Беласток), дзе гурт мае намер паказаць сваім прыхільнікам зусім новую праграму.

## Ну і як жа тую «маладую выводзяць»?..

Апошняй навінай беларускага музычнага рынку стаў канцэртны альбом папулярнейшага фольк-аўтэнтык гурта **«Ліцвіны»**. Фірмовая аздоба выдання, паліграфічная культура вокладкі дэманструюць яўны крок наперад у прапагандзе твораў беларускай масавай культуры, хоць у мастацкім выкананні гэтае аздобы ўсё яшчэ надта мала мастацкага густу: невыразны шрыфт, куды запёрты партрэты музыкантаў гурта — гэтага зусім недастаткова, каб хоць бы сфармуляваць ідэю выдання, а раскрыць яе — тым болей (гл. здымак).

І ўсё ж няма сумненняў, што касета знойдзе свайго слухача, як і папярэднія альбомы «Ліцвінаў» («Голуб на чарэшні, галубка на вішні», 1992, «Неба і зямля» 1994), распаўсюджаныя праз сетку кіёскаў ТБМ. Гарантуе гэта сам клас музыкаў, неардынарнасць іхняга падыходу да фальклору, здольнасць актыўнага самавыяўлення ў творчасці.

Трэба сказаць, што новае выданне, якое атрымала назву **«5 сакавіка»** (паводле даты аднаго з канцэртаў калектыва, што адбыўся сёлета ў памяшканні менскага тэатра «Вольная сцэна») нясе ў сабе не толькі навізну. Скажам, з 24 песняў гэтай праграмы чатыры паходзяць з першага альбома, ажно адзінаццаць ёсць на другім, а да гэтага ліку трэба дадаць яшчэ два асабліва ўлюбёныя творы («Юрачка» і «Як маладую выводзяць»), якім знайшлося месца на ўсіх трох кружэлках.

Праўда, не трэба валодаць вышэйшай матэматыкай, каб здагадацца, што поўны «news» на гэтым Live recording ахоплівае таксама немалую прастору — ажно сем песняў. І гэта «Вальс Балкоўскага», «Сват», «Да каханкі», «Па загонах» ды іншыя.

Дый старыя творы маюць зусім новую, часам нечаканую настраёвую аўру ў атачэнні выразнай эмацыянальнай падтрымкі публікі, чаго ніколі не пакажа студыйны запіс. Таму новыя «Ліцвіны» так і просяцца ў вашую калекцыю.

## Свята ў садзе амбасады

Арыгінальную ініцыятыву ўзяло на сябе **пасольства Рэспублікі Польшча** ў Беларусі. Някепска было б, каб гэта стала добрай традыцыяй! А справа вось у чым: у сярэдзіне чэрвеня прадстаўнікі нацыянальнай рок-эліты (музыкі і крытыкі) былі запрошаны на свята, што праводзілася ў садзе на тэрыторыі (прабачце за каламбур) амбасады.

Што за свята? Ды не, зусім не гадавіна якой-небудзь акцыі ці чыйсьці дзень нараджэння. Проста сяброўская сустрэча, на якой можна было пагаварыць, патанчыць, паслухаць добрай музыкі або ўзняць настрой чымсьці больш моцным за «Кока-колу».

Выступалі гурты «Крама», «НРМ», «Новае неба», быў, але не выступаў «Палац», іхнія новыя творы слухалі і абмяркоўвалі журналісты газеты «Культура», радыёстанцый «Свабода» і «PR 5», дый, зразумела, ваш пачцівы карэспандэнт ад «Нашага слова». З прыемнасцю сустрэў там сярод зацікаўленых беларускім рок-н-ролам сусветнавядомага ўжо (дзякуючы менскай міліцыі) журналіста «Gazety wyborczej» Цэзары Галінскага і карэспандэнта Polskej Agencji Prasovej Уладзіміра Паца (на здымку ён справа).

А ўвогуле дзіўна: пакуль нашыя кіраўнікі апякуюцца замежным і чужамоўным шоў-бізнесам, нашыя зоркі адчулі клопат не ад «родных бацькоў», а ад дальнабачнай польскай дыпламатыі, якая неяк жа ўмее знайсці беларусаў у Беларусі.

**Старонку «Гіт» прэзентуе шаноўным чытачам журналіст, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Кинонеделя Минска» Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

# Праграма тэлебачання

## Панядзелак, 15 ліпеня

### Беларускае тэлебачанне

17.05 «На добры лад».
17.20 Параграф. Менскі гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва
18.00 Фінансавы час.
18.20 Тэлеанонс (кіно).
18.25 Эканамікст. Нерухомасць.
18.35 «3 х 1». Муз. перадача.
18.50, 0.30 Навіны.
19.00 «Славянскі базар-96».
19.15 «Крок». «Рызыка-версія». Тэлегульня.
19.50 «Пазнай сябе». Парады псіхолага.
20.25 Калыханка.
20.45 Панарама.
21.15 «Славянскі базар-96». Конкурс маладых выканаўцаў.
22.45 Спартыўны тэлекур'ер.
23.00 «Славянскі базар-96». Канцэрт студыі «Сябры».

### ГРТ

14.00, 17.00, 22.25 Навіны.
14.20 «Рыцар Адважнае Сэрца».
14.45 Марафон-15.
15.00 Зорны час.
15.40 «Элен і хлопцы».
16.05 Джэм.
16.30 Сем дзён спорту.
17.20 Прэм'ера! Серыял «Новая ахвяра» (Бразілія).
18.10 Час пік.
18.35 Адгадай мелодыю.
19.00 «Калі...» Вядучы — У.Познер.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 «Віртуальная рэальнасць».
21.40 Э.Радзінскі. «Загадкі гісторыі».
22.35 «Гамбрынус». М.ф.

### Канал «Расія»

16.50 «Чэленджэрс». Серыял.
17.20 Прагулкі для апетыту.
17.30 L-клуб.
18.15 Момант ісціны.
19.00, 22.55 Весткі.
19.35 «Санта-Барбара».
20.30 Джэнтльмен-шоу.
21.05 «Славянскі базар».
22.45 «24—метэор—24».
23.10 Музыка ўсіх пакаленняў.

### Санкт-Пецярбург

17.05 «Філасофія па Філу».
17.30 Стыль жыцця.
17.35 «Фердынанд Цудоўны». Муз.ф.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.20 «Першае каханне».
20.15 Толькі без панікі.
20.40 Тэлеслужба бяспекі. «Па-за законам».
20.55 Спартыўны агляд.
21.05 «Вялікі чалавек».
22.15 «Справа была ў Пянькове». М.ф.

### НТБ

17.00 «Незвычайныя прыгоды Скубі-Ду».
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00, 23.00 «Сёння».
18.35 «Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі». Д.ф. 1-я ч.
19.00 «Чорная мантыя для забойцы». М.ф.
21.35 «Дзікія пальмы». 4-я ч.
22.30 Часінка.
23.20 Шахматы. Спецвыпуск.
23.25 Аўтагонкі «Індыкатар».

## Аўторак, 16 ліпеня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.50, 18.25 Эканамікст.
8.00, 15.00, 18.50, 0.25 Навіны.
8.15 Аўта-парк.
8.30 «Славянскі базар-96». Абібок.
8.45, 19.15 «Рэкс — верны сябар паліцэйскага».
9.40 Абібок.
10.05 «Сядзіба».
10.40 Тураб'ектыў.
11.00 «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма.
11.25 Чацвёртае вымярэнне.
12.05 Акалада. Муз.-забаў. праграма.
15.15 «Фліпер».
15.40 «Ну, пачакай!» 12-я, 13-я ч.
16.05 «Роднае слова». Тэлечасопіс.
16.25 Пад знакам «Ч» (з Гомеля).
16.40 «Хельмут і Домна». Тэленарыс.
18.20 Урокі Н.Наважылавай.
18.00 «Чым багаты...» Рэспубліканскі навукова-даследчы і праектна-тэхналагічны інстытут будаўніцтва.
18.15 «Будзьце здаровы».
18.35 «3 х 1». Муз. перадача.
19.00 «Славянскі базар-96».
20.10 Калыханка.
20.30 Панарама.
21.15 «Славянскі базар-96». Конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні.
22.45 «Амерыканская дачка». М.ф.

### ГРТ

5.00 Тэлераніца.
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25 Навіны.
8.15, 17.20 «Новая ахвяра».
9.50 «Смехапанарама».
10.20 Мультфільм.
10.30, 18.35 Адгадай мелодыю.
11.10 Тэлерадыёкампанія «Мір».
11.55 «Вяртанне Будулая». М.ф.
13.15 Мультфільм.
13.25 Каханне з першага погляду.
14.20 «Рыцар Адважнае Сэрца».
14.45 Квар'етэ «Вясёлая квампанія».
14.55 Мультытролія.
15.10 Чароўны свет, альбо Сінема.
15.40 «Элен і хлопцы».
16.05 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Сем дзён спорту.
18.10 Час пік.
19.00 Тэма.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 «Шчодрае лета». М.ф.
22.35 Канцэрт Дэвіда Бауі.
23.40 «Вялікая перамена». 1-я ч.
0.45 Муз.праграма.

### Канал «Расія»

6.30 Ранішні экспрэс.
7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
7.20 «Чароўны школьны аўтобус».
7.45 Час дзелавых людзей.
7.55 «Славянскі базар».
8.05, 19.35 «Санта-Барбара».
16.20 Музыка ўсіх пакаленняў..
16.35 Залежыць ад цябе.
16.55. Футбол. «Дынама» (М)—«Тарпеда» (М). У перапынку — тэлечасопіс «Здароўе».
20.30 «Бочка мёду».
21.05 «Славянскі базар».
22.50 «24—метэор-24».
23.15 Музыка ўсіх пакаленняў.
23.25 Зоркі экрана.

### Санкт-Пецярбург

11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 16.55, 18.55, 21.55 Інфарм ТБ.
12.05, 19.20 «Першае каханне».
13.10 Тэрмін адказу — сёння.
14.05, 21.05 «Вялікі чалавек». М.ф.
15.10 Э.Казан і яго фільм «Твар у натоўпе». 1-я ч.
16.25 Мультфільм.
16.40, 20.40 Тэлеслужба бяспекі.
17.05 «Філасофія па Філу».
17.30 Стыль жыцця.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
20.15 Толькі без панікі.
20.55 Спартыўны агляд.
22.15 «Генеўра». М.ф.

### НТБ

17.00 «Незвычайныя прыгоды Скубі-Ду».
17.30 Жаночыя гісторыі «Ланкастэр і Мілер: гісторыя кахання». 2-я ч.
18.35 «Імкненне да нябёсаў: гісторыя авіяцыі». Д.ф. 2-я ч.
19.00 «451 градус па Фарэнгейту». М.ф.
21.35 «Дзікія пальмы». 5-я ч.
22.30 Часінка.
23.20 Вялікі рынг.
23.50 Меламанія: «Іглс».

